# Ці застануцца Беларусь і Малдова ў адной Садружнасці?

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Пасля падпісання Дагавора аб дружбе і супрацоўніцтве паміж Беларуссю і Малдовай, у час прэс-канферэнцыі, я спытаў у Прэзідэнта Снегура, якую ролю, на яго думку, можа адыграць СНД ва ўрэгуляванні прыднястроўскай праблемы.

Прэзідэнт згадаў аб сакавіцкай рэзалюцыі Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД, якая падтрымала адзінства і цэласнасць Малдовы, высока ацаніў прынцыповасць пазіцый суседніх дзяржаў. Аднак тут жа напомніў і пра тое, што «яшчэ на маскоўскай сустрэчы былі прапановы накіраваць у зону канфлікту раз'яднальныя міратворчыя сілы СНД. Але, на жаль, гэтыя сілы не сфарміраваны і да сённяшняга дня».

Тэма будучыні СНД і верагоднасці хуткага роспуску гэтай арганізацыі, — якая, на жаль, узнікае амаль перад кожнай сустрэчай «у вярхах» — спадарожнічае і блізкай нарадзе ў Мінску. Гэта пацвердзілі і перагаворы нашай дэлегацыі ў Кішынёве. Кіраўнікі Малдовы, каменціруючы вынікі візіту, рабілі акцэнт на расшырэнні двухбаковых адносін і стараліся менш згадваць пра СНД.

Між тым, аб праблемах Садружнасці напаміналася амаль у кожным пытанні журналістаў на прэс-канферэнцыі ў рэзідэнцыі Мірча Снегура.

Прэзідэнт Малдовы ўсё ж прылятае ў Мінск. У якой якасці ён будзе ўдзельнічаць у перагаворах?

— Я хачу прапанаваць нарадзе кіраўнікоў дзяржаў лічыць тыя выключна далікатныя абставіны, якія маюць месца ў Малдове, і лічыць Мірча Снегура правадзейным удзельнікам нарады, — растлумачыў Станіслаў Шушкевіч у час імправізаванай прэс-канферэнцыі ў самалёце, якую мы наладзілі з журналістам «Народнай газеты» Сяргеем Плыткевічам. — Спадзяюся, што парламент Малдовы прааналізуе гэту сітуацыю і, магчыма, прыме адпаведнае рашэнне, якое дазволіць яму быць правамоцным членам. Хаця гэта — мая асабістая думка. Больш таго, я пакуль што не перакананы, што ўсё будзе ісці па спраектаванай схеме. Бо вы бачыце: у нашых суседзяў адбываюцца бурныя падзеі. А ёсць пэўныя кіраўнікі, якія вельмі хутка карэкціруюць свае дзеянні з падзеямі ў Расіі. І таму ў мяне няма перакanання, што ўсё ў нас адбудзецца ў адпаведнасці са зробленым праектам нарады 25 снежня.

**— Наколькі вялікая верагоднасць утварэння на месцы Садружнасці канфедэрацыі на чале з Расіяй?**

— Утварэнне канфедэрацыі на чале з Расійскай Федэрацыяй я лічу наогул неверагодным. Хопіць нам ісці па шляху старэйшых і малодшых братоў. Канфедэрацыя не прадугледжвае некага на чале...

Думаю, што гэты тэмп быў быў страчаны. Цяпер трэба дарасці да таго, каб такая прапанова, — раўнапраўнай канфедэрацыі, — атрымала падтрымку. Што да мяне асабіста, — я не бачу пакуль што шляху справядлівай канфедэрацыі. А ісці ў падпарадкаванне, заявіць аб тым, што мы няздольны кіраваць нашай дзяржавай, — мне здаецца, гэта нам не да твару.

**— Як у сувязі з гэтым вы расцэньваеце заяву маршала Шапашнікава аб тым, што ўжо на гэтай сустрэчы «ў вярхах» ён будзе настойваць на тым, каб члены Садружнасці канчаткова вызначыліся, хто — за цесны і моцны саюз, а хто — супраць?**

— Ён можа мець свой пункт гледжання — гэта яго справа. Асабіста я супраць такога падыходу і не ведаю, дзеля якой мэты трэба ўтвараць новую імперыю. Я атрымаў пасланне маршала Шапашнікава, але не надаў яму такога значэння, як іншыя. Я накіраваў яго ў камісію.

**— У Малдове абмяркоўваліся канкрэтныя напрамкі эканамічнага супрацоўніцтва, у прыватнасці — абмен прадуктаў нафтаперапрацоўкі на сельскагаспадарчую прадукцыю. Вам не здаецца такі абмен неэквівалентным?**

— У нас няма такога абмену. Мы толькі перапрацоўваем тую нафту, якую набыла Малдова ў Расіі. Мы выконваем забарону Расіі на рээкспарт нафтапрадуктаў і не можам паступаць інакш, бо Расія будзе мець усе падставы, каб прадаваць нам нафту толькі па сусветных цэнах.

Што датычыць супрацоўніцтва з Малдовай, — то тут ёсць шмат станоўчага. Сёння мы з вамі былі ў інстытуце кукурузы, у асацыяцыі «Парумбень», які даўно і плённа супрацоўнічае з нашай сельскай гаспадаркай. Ёсць перспектыва рашучага павелічэння вытворчасці фуражнага зерня ў Рэспубліцы Беларусь. 60, 70, нават 100 цэнтнераў зерня з гектара — гэтыя лічбы, якія там называліся, зрабілі на мяне вялікае ўражанне. Калі нашы эксперты, навукоўцы, аграрыі пацвердзяць, што такі падыход мае рацыю — думаю, ёсць вельмі добрая перспектыва.

**— Ходзяць чуткі, што сустрэча 25 снежня будзе зноў перанесена. Вы не маглі б абвергнуць або пацвердзіць іх?**

— Рашучыя змены, пераход ад аднаго стану да другога, які мы бачым цяпер у нашых суседзяў, могуць наогул уздзейнічаць на тэрмін сустрэчы. Я не выключаю, што сустрэча 25 снежня не адбудзецца.

**Валянцін ЖДАНКО, спецыяльны карэспандэнт «Звязды».**

Кішынёў—Мінск.

# Эканоміка, маральнасць, культура— падмурак нашай дзяржаўнасці

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Сама па сабе прыватызацыя, без выразнага дзяржаўнага рэгулявання нічога не дасць, акрамя таго, што выкліча страшэнныя катаклізмы ў грамадстве. Стыхійны рынак, які мы бачым сёння, нагадвае барахолку з дзікімі законамі і агіднай псіхалогіяй. Такі рынак — шлях у бездань.

Хопіць нам фантастычных эксперыментаў. Дадам: тое, што мы называем прыватызацыяй, ніколі не праводзілася ні ў адной капіталістычнай краіне. Там бываюць часам акцыі па нацыяналізацыі асобных галін прамысловасці, калі да ўлады прыходзяць сацыял-дэмакратычныя ўрады, і перадача іх назад уладальнікам пасля падзення ўрада. Але гэтыя акцыі ніколі не перавышаюць 5—10% ад агульнага аб'ёму магутнасцей. Прыватызацыя, якая задумана ў нас, рэзка змяняе ўвесь лад жыцця. Таму яе праводзіць трэба абачліва, разумна і з разлікам, згодна з прымаўкай: сем раз адмерай, адзін — адрэж.

Усе дзяржавы Захаду рэгулююць гаспадарчую дзейнасць праз законы, розныя падаткі, квоты, шляхам кантролю за цэнамі, з устанаўленнем цвёрдых цэнаў на многія прадукты харчавання. Стварэнне падобнай нарматыўна-прававой базы ёсць найважнейшая ўмова ў рэфармаванні эканомікі. Тым больш, калі ўлічыць, што эканоміка Беларусі не самастойная ў той меры, у якой гэтага патрабуе самастойная дзяржаўнасць. Большасць нашых прадпрыемстваў жыццяздольныя толькі як звёны ў ланцугу былой агульнасаюзнай кааперацыі, якой быццам няма, але якая ўсё ж ёсць, і дзякуючы яе рэшткам мы пакуль што не вылецелі ў трубу. Таму ізаляванае рэфармаванне адбываецца павольна і надзвычай хваравіта. Рэформе патрэбна агульная эканамічная прастора, якую мы з прадстаўнікамі сумежных дзяржаў імкнёмся, наколькі гэта магчыма, захаваць і пашырыць. Бо жывём мы не ў вакууме, і наш лёс залежыць ад працэсаў у суседніх з намі краінах на Усходзе і Захадзе, на Поўначы і Поўдні.

Да апошняга часу ў рэспубліцы ў асноўным у выніку блытаніны і дысбалансу ў прававых актах, што пакінула нам у спадчыну «перабудова», імгненна нарастала інтэграцыя дзяржаўнай і «калядзяржаўнай» уласнасці. Гэтыя структуры зліліся і толькі імітуюць рыначныя паводзіны, а на самай жа справе ў новай форме ствараюць яшчэ больш нецывілізаваную прыватна-дзяржаўную эканоміку. Прыкладаў наконт гэтага дастаткова. Мы вымушаны былі пайсці на шэраг абмежаванняў, у тым ліку забаранілі дзяржпрадпрыемствам і службовым асобам займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю.

Вядома ж, пра служачых дзяржапарату трэба належным чынам паклапаціцца, каб ніхто з іх пасля служэння дзяржаве не апынуўся на вуліцы з працягнутай рукой. Тады і яны, думаю, не пашкадуюць свайго розуму для стварэння і ўсталявання прынцыпова новай сістэмы кіравання, а гэта, вядома, патрабуе ўпартай штодзённай працы.

Я разумею, усім нам хочацца ісці сёння шпарчэй. Аднак мы ведаем з гісторыі іншых краін, што вялікія скачкі могуць абярнуцца вялікім канфузам.

Дзяржава ў асобе сваёй вярхоўнай заканадаўчай і выканаўчай улад абавязана трансфармаваць нацыянальныя інтарэсы, гістарычныя традыцыі і псіхалогію беларускага народа ў грамадскія ідэалы суверэннай Рэспублікі Беларусь. Людзі не павінны, суцяшаць сябе развагаменнямі пра нейкі абстрактны дэмакратычны шлях развіцця. Мы не можам цямніць, а абавязаны сумленна, адкрыта сказаць ім: куды, да якой эканомікі і да якой сацыяльнай сістэмы рухаемся.

**Я асабіста бачу мэту ў стварэнні эканомікі сацыялізаванага тыпу, у якой цэнтральнай фігурай з'яўляецца вытворца, а дабрабыт усіх забяспечваецца за кошт дабрабыту кожнага і ўсім грамадзянам дзяржава гарантуе аднолькавыя стартавыя магчымасці.** Мая пазіцыя і мае перакананні грунтуюцца на сінтэзе асабістых разваг, аналізе сусветнага вопыту, уліку нацыянальных асаблівасцей і гістарычнай спецыфікі Беларусі. Сацыялізаваная эканоміка ў маім разуменні мае вялікае падабенства з цяперашняй эканомікай індустрыяльна развітых краін Захаду, асабліва Еўропы, дзе прыватнае ўсё больш цягнецца да калектыўнага, існуе ў выглядзе карпарацый, асацыяцый, калектыўнасці, праўда, зусім іншай, чым пры сацыялізме, — такой, якая за кошт яднання намаганняў дазваляе канцэнтравана нарошчваць вытворчыя магутнасці, паляпшаючы такім чынам дабрабыт людзей. Пры гэтым адкрываюцца велізарныя магчымасці выдзяляць сродкі на дапамогу па старасці, на адукацыю, ахову здароўя, жыллёвае будаўніцтва; скарачаць разрыў у аплаце працы прадпрымальнікаў і наёмных рабочых. Пры гэтым уладараць не толькі права і асабістая ініцыятыва, але і сацыяльная справядлівасць, абароненасць слабага ад моцнага. Такая рэальнасць у Аўстрыі, Галандыі, Даніі, Нарвегіі, іншых сярэднееўрапейскіх краінах. З імі Беларусь суадносная не толькі тэрытарыяльна, але і ў некаторых аспектах індустрыяльнага, навукова-тэхнічнага развіцця.

Заўважу: галоўная арыентацыя гэтых дзяржаў — не на знешні, а на ўнутраны рынак. Дзяржава багатая не тады, калі яе самалёты лятаюць усё вышэй і вышэй, а калі яна шмат выпрабляе, а яе грамадзяне спажываюць на ўзроўні еўрапейскіх краін і іх попыт увесь час павышаецца і стымулюе вытворчасць. Адэкватна рэагаваць на попыт можна толькі павышэннем прадукцыйнасці працы, навукова-тэхнічнай мадэрнізацыяй. У гэтым плане нам давядзецца грунтоўна перагледзець прынцыпы ўзаемаадносін паміж дзяржавай і навукай. Пры безумоўнай падтрымцы фундаментальных даследаванняў адносін паміж дзяржавай і прыкладной навукай неабходна наладжваць на аснове дзяржаўных навукова-тэхнічных праграм і праектаў, якія будуць скіраваны на вырашэнне выключна прыярытэтных сацыяльна-эканамічных праблем. Ва ўсім іншым навуковыя калектывы мусяць самі вырашаць, як і да чаго прыкласці намаганні, каб выжыць, выстаяць у канкурэнтнай барацьбе.

Тон задаваць тут павінна Акадэмія навук. Ёй належыць стаць не толькі вядучым цэнтрам навукі і мастацтва, але і генерыраваць важныя ідэі, якія б працавалі на абнаўленне рэспублікі, на яе заўтрашні дзень.

Акрэсленыя мною контуры сацыялізаванай эканомікі патрабуюць дэталёвага тэарэтычнага вывучэння. Тут, па вялікім рахунку, патрэбны глыбокі аналіз, роздум, даследаванні. У пошуках аптымальных варыянтаў не варта раўняцца на артадаксальных рэвалюцыянераў, якім заўсёды ясна, што рабіць, як рабіць, куды ісці.

## II.

Асобная праблема, можна сказаць, боль душы — наш духоўны стан, наш нацыянальны менталітэт. Бо ў канчатковым выніку вельмі важна, якія духоўныя каштоўнасці мы перадамо моладзі, дзецям і ўнукам, з якімі ідэаламі і маральнымі прынцыпамі ўвойдзем у сусветнае супольніцтва і зробім крок у будучыню.

Калі грамадства выбірае для сябе ў якасці ідэалу свабоду, дабрачыннасць, вартасць асобы, дык жа натуральна сёння звярнуцца да хрысціянскай традыцыі, у глыбінях якой чалавецтва зрабіла гіганцкі крок да самапазнання і вяршынь духоўнасці, а індывід стаў асобай за свае справы і ўчынкі.

Адмаўленне хрысціянскіх дабрадзействаў — любві і спагадлівасці, іх вульгарнае падпарадкаванне рэвалюцыйнай мэтазгоднасці спарадзілі вялікую духоўную трагедыю нашага грамадства.

Мне падчас здаецца, што мы стаім на краю духоўнай бездані. Сёння амаральнасць стала правілам, ашуканства, падман і цынізм — звычкаю. Адбылася дзіўная метамарфоза людзей з самых розных слаёў.

Я разумею, што глыбінная прычына такіх з'яў крыецца ў эканоміцы. Пачварныя эканамічныя адносіны найперш спараджаюць маральны, як кажуць, тлум. Наша сённяшняе жыццё — красамоўны таму прыклад. Вакханалія ў эканоміцы выклікала цэлую хвалю ваяўнічага амаралізму, выкінула на паверхню грамадскага жыцця сквапныя мафіёзныя групы дзяльцоў-драпежнікаў ці проста цёмных асоб, якія імкнуцца любой цаной пагрэць рукі на нашых цяжкасцях, прадаць і пусціць на вецер усё, абы хутчэй напхаць кішэні. Даступнасць лёгкага абагачэння разбэшчвае маладых людзей, адвучае іх ад працы, спараджае атмасферу ўсёдазволенасці, беззаконня.

Якой бы цяжкай ні была эканамічная сітуацыя, менавіта амаральнасць — найбольшая пагроза нашаму нацыянальнаму суверэнітэту. Не хацелася б прыводзіць горкія параўнанні, але ж старажытныя цывілізацыі (у прыватнасці Рымская) гінулі ад разбурэння маральнасці. Настаў час усім нам, і перш за ўсё інтэлігенцыі, якая з'яўляецца душой і розумам нацыі, а таксама сродкам інфармацыі, незалежна ад іх ведамаснай прыналежнасці, узняць голас у абарону дабрыні, гонару, сумленнасці, прыстойнасці, дабрачыннасці.

**Найпершы абавязак дзяржавы заключаецца сёння ў тым, каб вярнуць народу духоўныя каштоўнасці, у тым ліку каштоўнасці хрысціянскага вучэння, якое ўвасабляла і ўвасабляе мараль і сумленне беларускай нацыі.**

Бездухоўнасць, апанаваўшая наша грамадства, абапіраецца яшчэ і на нашу абяздоленую гістарычную памяць. Я нічога не маю супраць таго, каб нашыя дзеці цікавіліся асобаю Аляксандра Неўскага, але адначасова я і за тое, каб яны ведалі, чым былі ў нашай гісторыі Полацк і хто такія крывічы, што такое Вялікае Княства Літоўскае, які наогул гістарычны шлях зямлі беларускай.

Нацыянальнае ў свядомасці не можа скласціся ў выніку добрых пажаданняў. Калі мы нацыя, то ў нас абавязкова павінны быць свае нацыянальныя святыні. З тым арсеналам нацыянальнага, які мы атрымалі ў спадчыну, нам нялёгка фарміраваць нацыянальную свядомасць, пераконваць нашых сучаснікаў і нашчадкаў, што мы маем гісторыю нашай дзяржаўнасці і што мы не якія-небудзь Іваны-бязродзічы. Той факт, што сёння многія беларусы не ўмеюць чытаць па-беларуску, а часам саромеюцца гаварыць на роднай мове і не могуць пераадолець пакуль што гэты сорам, яшчэ раз пацвярджае, як разбурылі мы свой нацыянальны менталітэт. Таму такімі неабходнымі і каштоўнымі з'яўляюцца сёння любыя намаганні, дзяржаўныя і грамадскія ініцыятывы па адраджэнні нацыянальнай гісторыі. Я з велізарным натхненнем, напрыклад, даведаўся пра пачынанне групы мінскіх падзвіжнікаў, якія ствараюць у рэспубліцы музей нацыянальнай гісторыі, і хацеў бы вельмі падтрымаць гэту важную працу.

**Нацыянальны патрыятызм у спалучэнні з хрысціянскім дабрадзействам і мараллю павінны скласці духоўную апору нашага народа. Тут, на гэтым шляху, мы набудзем моц і волю, каб выбрацца з крызісу, зрабіць крок наперад, стаць на адзін узровень з цывілізаваным грамадствам.**

Аднак я з трывогай назіраю, як замінае расчышчаць шматгадовыя нагрувашчванні на гэтым шляху правінцыялізм, для якога характэрна неўспрыманне іншых, хай сабе і правільных, думак. Групаўшчына, амбіцыйнасць — гэты ўедлівы вірус, які праняў частку нашай інтэлігенцыі, нівеліруе творчую асобу, падрывае яе маральнасць.

Вельмі небяспечнымі, я лічу, для грамадства заявы асобных дзеячаў, якія ў сваім жаданні, зразумелым і высакародным, адрадзіць нацыянальную культуру, гатовы пайсці на любыя, нават самыя крайнія меры. Нам ні ў якім выпадку нельга дапусціць нават нязначнага ўшчамлення іншых культур, ці якіх-небудзь абмежаванняў па прыкмеце нацыянальнасці. Гэта найперш датычыцца і моўнай праблемы, якая сёння хвалюе многіх. Тут патрэбны мудрасць і разважлівасць, спакой і павага адзін да аднаго.

Сур'ёзная грамадская праблема сёння — гэта эканамічнае становішча інтэлігента. Урад будзе ўсяляк падтрымліваць і ахоўваць таленты нацыі. Але ж і творчыя калектывы пры ўваходжанні ў рынак павінны вучыцца зарабляць сродкі, так неабходныя для пакрыцця сваіх непамерна ўзрослых фінансавых выдаткаў.

## III.

Усё гэта, зразумела, няпроста. Пакуль мы ўслаўлялі розум нашых генсекаў, свет крочыў наперад, ды так, што мы толькі зараз усведамляем, наколькі вялізнай аказалася дыстанцыя адрыву. Сённяшняя сітуацыя пераконвае ў адным: **неабходна неадкладная, без прамаруджвання, рэформа як агульнаадукацыйнай, так і сярэднеспецыяльнай і вышэйшай школы,** каб дамагчыся не толькі матэрыяльнага дабрабыту, але і высокага інтэлекту.

Якая школа патрэбна сёння? Думаю, перш за ўсё шматпрофільная, якая будзе выхоўваць грамадзян нашай суверэннай незалежнай дзяржавы найперш на традыцыях і каштоўнасцях нацыянальнай культуры. І разам з тым усведамляючых, што яны частка адзінай еўрапейскай і сусветнай цывілізацыі і культуры. Такім чынам, нацыянальна-культурная арыентацыя не павінна замыкацца ў мястэчковай самабытнасці і архаічнасці, а стаць вялікім акном у сучасны свет ведаў.

Нам патрэбны гімназіі, каледжы, ліцэі не як навінка, а як даступная для ўсіх рэальнасць. Патрэбны новыя дабраякасныя падручнікі і кнігі аб Радзіме — Беларусі, аб гісторыі роднага краю, аб нацыянальных традыцыях беларускага народа. Думаю, што вучэбныя праграмы павінны быць з'арыентаваны на сур'ёзнае вывучэнне моў, асабліва еўрапейскіх, асноў міжнароднага права, эканомікі, дзяржаўнага ладу.

**Мы павінны стварыць, пачынаючы з дзіцячага садка і да ўніверсітэта, сістэму адбору і падтрымкі на дзяржаўным узроўні найбольш таленавітых, здольных дзяцей. Не згубіць, захаваць беларускіх геніяў, паставіць іх у найлепшыя ўмовы —адна з галоўных задач, якую павінна вырашыць сёння народная адукацыя.** Было б ідэальным, калі б дэвізам нашай школы стаў афарызм: «вучань —не збан, які трэба напоўніць, а факел, які трэба запаліць».

Разам з гэтым трэба адкрыта сказаць моладзі, што ёй не варта чакаць міласціну ад прыроды, а неабходна разлічваць у першую чаргу на ўласныя сілы і ініцыятыву. Грамадства не можа і не павінна быць вечным бацькам сваіх дзяцей, да таго ж і самі дзеці ў большасці сваёй выступаюць супраць такога выхавання.

## IV.

Натуральна, што, думаючы пра выжыванне, мы марым пра аднаўленне нашай Беларусі. У роздуме пра шляхі выйсця з крызісу я ненарокам звяртаюся да сваёй паездкі ў Кітай. Шлях да ўзыходжання кітайскае кіраўніцтва пачало з апоры на суайчыннікаў, якія жывуць у розных частках свету. Менавіта яны прывезлі на радзіму замежны вопыт, не пабаяліся ўкласці ў гаспадарку свае капіталы, веды, ініцыятыву.

Лёс раскідаў па свеце нямала беларусаў. Як паказала праведзеная ў Маладзечне міжнародная канферэнцыя, ніхто з іх сёння не абыякавы да таго, што адбываецца на радзіме, многія напэўна адгукнуліся б на наш заклік прыехаць, пачаць тут, на зямлі продкаў, сваю справу, знайсці свой інтарэс. Аддаючы належнае таму, што робіцца ў гэтым накірунку нашым Міністэрствам замежных спраў, Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтрам імя Ф. Скарыны, Таварыствам дружбы і культурных сувязяў з замежнымі краінамі, лічу, аднак, неабходным больш актыўна весці працу з суайчыннікамі па ўсіх напрамках і каналах з удзелам шырокай грамадскасці рэспублікі.

Нельга забываць і пра нашых землякоў, што жывуць у дзяржавах былога Саюза. Сустрэча беларусаў «блізкага замежжа», якая адбылася ў гэтыя выхадныя ў Мінску, паказала, што ў іх шмат праблем. Урад гэта ведае і будзе рабіць усё магчымае, каб падтрымаць суайчыннікаў у цяжкі для многіх з іх час.

Наша міжнародная і найперш знешнепалітычная дзейнасць павінна падкрэсліваць наша імкненне далучыцца да каштоўнасцей сусветнай палітычнай культуры. Гэта зусім не значыць, што, рэалізуючы канцэпцыю дыпламатычных прыярытэтаў Беларусі, мы павінны арыентавацца выключна на еўрапейскі Захад ці на гарызонты атлантычнага ўзбярэжжа. Інтэграцыю ў сістэму агульнаеўрапейскіх і сусветных сувязяў не варта атаясамліваць з аддаленнем ад Масквы ці Кіева. Прыярытэты нашай знешняй палітыкі, якія ажыццяўляюцца Міністэрствам замежных спраў, — нейтралітэт, без'ядзернасць, аднолькава спрыяльныя адносіны з усімі суседзямі, інтэграцыя ў сістэму сусветных адносін—патрабуюць больш поўнага тэарэтычнага абгрунтавання з улікам, я б сказаў, як гістарычнага мінулага, так і сучаснасці.

У любым выпадку мы не павінны ў знешняй палітыцы выступаць у ролі сляпога, які навобмацак пасярод машын пераходзіць вуліцу. Не варта і механічна пераймаць чыйсьці вопыт або ісці ў фарватэры больш моцнага.

**Патрэбна свая пазіцыя, свой погляд і сваё стаўленне да таго, што адбываецца ў свеце. Гэта стане прынцыпова магчымым пры адной, на маю думку, умове—калі здолеем вылучыцца са шматбаковага асяроддзя, здолеем усвядоміць, асэнсаваць, перавесці ў практыку нашы нацыянальныя інтарэсы.**

Трэба пільна ўзірацца ў гісторыю, аналізаваць сучаснасць, думаць пра будучыню—толькі так зможам асэнсаваць і абараніць інтарэсы свайго народу.

Асобная тут праблема—стварэнне ўласных узброеных сіл, рэалізацыя абарончай дактрыны рэспублікі. Побач з эканамічнымі, палітычнымі аспектамі выключна важна вызначыць мадэль арганічнага ўваходжання ў сістэму калектыўнай бяспекі на еўрапейскім кантыненце і ў сусветным маштабе такім чынам, каб пазбегнуць парушэння існуючых тут балансаў і аднaчасова забяспечыць уласную абарончую канцэпцыю.

Паважаныя спадары!

У сваёй прамове я коратка пастараюся данесці як уласныя погляды, так і пазіцыю Урада па некаторых вызначальных момантах станаўлення і ўмацавання нашай дзяржаўнасці. Яшчэ раз дазволю сабе іх пералічыць.

**Першае.** У галіне эканомікі—ажыццявіць на грунтоўнай прававой і навуковай аснове раздзяржаўленне і паэтапную прыватызацыю дзяржаўнай уласнасці, маючы на ўвазе, што гэты перыяд зойме ў найбліжэйшай перспектыве да 5-ці гадоў, а ў далейшым да 10-ці і сваёй канчатковай мэтай скіраваны на стварэнне рыначнай эканомікі з сацыяльнымі прыярытэтамі. Пры гэтым надзвычай важна не дапусціць ушчамлення жыццёвых інтарэсаў грамадзян, зрабіць захады дзеля паляпшэння іх матэрыяльнага становішча.

**Другое.** У галіне дзяржаўнай—станаўленне суверэннай прававой дзяржавы з абарончай дактрынай, моцнай заканадаўчай і паўнамоцнай выканаўчай уладамі, незалежным правасуддзем.

**Трэцяе.** У сферы духоўных дачыненняў—паступовае сцвярджэнне нацыянальна-культурных і агульначалавечых каштоўнасцей, забеспячэнне гуманістычнай скіраванасці адукацыі, рэалізацыя сістэмы мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы і ў цэлым беларускай культуры—пры павазе і падтрымцы моў і культур прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей.

**Чацвёртае.** У галіне палітычнай—замацаванне дэмакратыі, захаванне правоў чалавека, цярпімасць да іншадумства, свабода веравызнання і палітычнага волевыяўлення.

Пры якіх умовах могуць быць ажыццёўлены пералічаныя задачы? Буду лаканічным, тым больш што не адкрываю Амерыку. Пры адной умове—захаванні стабільнасці і спакою ў рэспубліцы, канструктыўным узаемадзеянні ўсіх слаёў грамадства. Гэтую праблему я разумею як у вузкім, так і ў шырокім значэнні.

**У вузкім значэнні** стабільнасць для мяне—гэта найперш магчымасць кіруючых органаў усіх узроўняў працаваць у атмасферы даверу, абапіраючыся на падтрымку парламента і разуменне народа.

**У шырокім значэнні**—гэта неабходнасць рэфармавання дзеючых сёння дзяржаўных і выканаўчых структур на прынцыпах эвалюцыі і абнаўлення выключна з мэтай умацавання іх самастойнасці, узмацнення іх уладных паўнамоцтваў і здольнасці забяспечыць нацыянальную бяспеку нашай дзяржавы.

Шаноўныя сябры! Наша сустрэча адбываецца напярэдадні Новага, 1993 года. На жаль, з пражытым годам не канчаюцца нашыя трывогі і цяжкасці. Перыяд, у які мы ўступаем, рэфармуючы эканоміку, будуючы дзяржаву, ствараючы ўласныя Узброеныя Сілы, нашу духоўнасць, культуру, не абяцае быць лёгкім, а патрабуе надзвычай напружанай працы, свежай думкі, апантанасці і вытрымкі. Толькі так мы здолеем забяспечыць стабільнасць на нашай старажытнай і цудоўнай зямлі, перажыць крызіс, падняцца да вышыняў цывілізацыі і прагрэсу.

# Прагноз П. Глобы на 1993 год: «Аб чым пракукарэкае Чорны Певень»

**1993 год — гэта год драматычных падзей на зямлі. Год палярызацыі дабра і зла, процістаяння Захаду і Усходу, Поўначы і Поўдня. Па ўсходняй традыцыі — гэта год Чорнага Пеўня, што супадае з прагнозам Настрадамуса: «На Усходзе пракукарэкае Чорны Певень у той час, калі два вялікія кіраўнікі аб'яднаюцца на небе (Уран і Нептун у жніўні 1993 года) і гэта пераверне зямлю». Беларусь, як і краіны пад знакам Казярога (Кіргізія, Эстонія, Фінляндыя, Кітай) напаткаюць драматычныя перамены і перастаноўкі ў палітычным кіраўніцтве. Змяненне палітычнага курсу і выхад з застою. Сур'ёзныя выпрабаванні чакаюцца вясной, асабліва ў красавіку і маі, а таксама ў жніўні і верасні.**

**Ва ўсіх краінах былога Савецкага Саюза цяжкія выпрабаванні, небяспека развалу, прыход да ўлады дыктатарскіх рэжымаў. Год самы цяжкі па частцы стыхійных бедстваў, землетрасенняў, катастроф, аварый на атамных станцыях. У прыватнасці, на Ровенскай і Белаярскай АЭС.**

**У сацыяльным плане год чакаецца ліхаманкавым і мітуслівым. Эканоміку і палітыку па-ранейшаму будзе кідаць з крайнасці ў крайнасць. З-за сварак паміж рознымі групамі і групоўкамі ў высокіх структурах улады пошук рацыянальнага зерня залатой сярэдзіны будзе беспаспяховым. З'явіцца мноства абсурдных і нерэальных праектаў, хоць на першы погляд яны могуць здавацца даволі рашучымі. У фінансавай палітыцы магчымы выбухі. Смелыя, адчайныя дзеянні ўрада, але эканоміка і фінансы растуць пакрысе. Адно суцяшэнне — уздым у сельскай гаспадарцы.**

**У асабістым жыцці многіх чакаюць расчараванні ў сферы пачуццяў, бо рэчаіснасць не заўсёды адпавядае марам.**

**АВЕН**

Будучы год будзе дастаткова цяжкім, канфліктным. Час барацьбы і выбару: «я ці грамадства?» Вас чакаюць розныя непрыемнасці, процістаянні, ёсць рызыка цяжкіх матэрыяльных страт, фінансавых і судовых канфліктаў. Няўдачы, падрыў прэстыжу, падзенне аўтарытэту, напружаныя адносіны з начальствам, звальненне і пакіданне работы, разбурэнне існуючых умоў. Магчымы буйныя рознагалоссі з блізкімі, аж да канчатковага разрыву адносін. Найбольш цяжка і складана праявіцца гэта ў перыяд са студзеня па красавік. Вам не трэба высоўвацца і «ісці ва ўладу». Вялікія справы і рух па службовай лесвіцы таксама нічога добрага не абяцаюць.

Сур'ёзны крызіс на рабоце верагодны і ў верасні. Спадзяванне на ўласную значнасць, самаўзвелічэнне і ганарлівасць, перабольшанне сваіх магчымасцей — якасці, якія паслужаць сур'ёзным «каменем спатыкнення» ў многіх справах другой палавіны года. Верагоднасць духоўнага падзення і дэградацыі даволі рэальная. Вельмі пашанцуе з новымі сябрамі і знаёмымі. Таму трэба завязваць новыя адносіны і не адмаўляцца ад старых. Увесь год паездкі будуць паспяховымі. Можа вельмі пашанцаваць удалечыні ад дома. Аднак памятайце, што ўсемагчымыя тайныя справы небяспечныя для вас сваімі вынікамі, асабліва ў першай палавіне года.

**(Працяг будзе).**

РЭЗАНАНС

# «СПРАВА, ВАРТАЯ ДВУХ МІЛЬЁНАЎ ВЫЕДЗЕНЫХ ЯЕК»

26 лістапада г. г. «Звязда» надрукавала мой матэрыял «Справа, вартая двух мільёнаў выедзеных яек». А ў газеце «Народнае слова» (орган Віцебскага аблсавета) ад 18 снежня з'явіўся, так сказаць, рэзананс — карэспандэнцыя пад рубрыкай «У прэзідыуме абласнога Савета» і пад назвай «З нагоды адной публікацыі». Як паважаныя чытачы, напэўна, ужо зразумелі, факты, якія я выкарыстаў у сваім матэрыяле, ставяцца пад сумненне.

Нагадаю, гаворка ішла аб адной бартэрнай аперацыі, якую ажыццявіла камерцыйнае прадпрыемства пры Віцебскім аблвыканкоме. Яйкі курыныя і мінеральныя ўгнаенні былі абменены ў Польшчы на цэмент і шыфер. Пры гэтым, мякка кажучы, былі некаторыя парушэнні, а дакладней, усю здзелку, як сведчаць матэрыялы праверкі, можна паставіць пад сумненне.

Але ўсё па парадку. Першы намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкома П. Драздоў на пасяджэнні прэзідыума аблсавета аб'явіў: «Віцебская вобласць мае сур'ёзныя цяжкасці ў забеспячэнні шыферам і цэментам»... І далей: «З заяўленых на 1992 год для патрэб аховы здароўя, адукацыі і сацзабеспячэння 12 тысяч тон цэменту вобласць атрымала толькі 5 тысяч тон...» Заўважце, гаворка ўжо не ідзе аб сельскай гаспадарцы, для якой меркавалася абменьваць яйкі на цэмент. Ужо — ахова здароўя і адукацыя. Прыярытэты памяняліся?

Цытую далей: «...вобласць дагаварылася аб набыцці ў Прыбалтыцы і Расіі пазафондавых мінугнаенняў (што трэба асабліва падкрэсліць). У рэшце рэшт угнаенні былі куплены па больш танных цэнах у Расіі». Тут зноў штосьці не тое. Згодна з рахункамі-фактурай ад 13 красавіка №№ 1-203 і 1-202, таварна-транспартнымі накладнымі №№ 039327 і 039328, Віцебскае райаб'яднанне «Сельгасхімія» адпусціла дзяржпрадпрыемству па знешнеэканамічнай дзейнасці 133,5 тоны карбаміду па 3.840 рублёў за тону і 325 тон салетры аміячнай па 2.432 рублі. У гэтым жа месяцы ад райсельгасхіміі атрымана 2.047 тон карбаміду і 770 тон салетры (нумары накладных, грузавыя мытныя дэкларацыі, дублікаты чыгуначных накладных ёсць). Кошт угнаенняў з нацэнкамі, тарай склаў 13 мільёнаў 108,4 тысячы рублёў. Такім чынам, калі Віцебск — гэта ўжо Расія, то чыя сталіца Мінск?

Яшчэ аб цэменце. Вось тэлефанаграма ў адрас «Белбудматэрыялаў»: «Сувязі адсутнасцю грашовых сродкаў Віцебская аблсельгасхімія адмаўляецца атрымліваць цэмент нарада 284/145 5 лютага 1992 года адрасаваны склад-магазін станцыі Гарадок. Намеснік старшыні аблсельгасхіміі Навумаў». 7.05.92 абвесткай 13—170 аблсельгасхарч адмовіўся ад занарадкі 10 тысяч тон цэменту, матывуючы гэта адсутнасцю грашовых сродкаў. Гэта што датычыцца нястачы ў вобласці цэменту. Ёсць і іншыя тэлеграмы падобнага зместу.

«Спажыўцам Віцебскай вобласці, — цытую запіску гендырэктара «Белбудматэрыялаў» В. Пытляка, — на 1992 год выдзелена і занараджана 327.800 тон цэменту.., шыферу —33.664 тыс. ум. плітак... Зваротаў арганізацый Віцебскай вобласці ў фірму «Белбудматэрыялы» з просьбай аб дадатковым выдзяленні цэменту і шыферу не паступала». Як кажуць амерыканцы, «ноў комент» — не каменціруецца.

У той жа час на ВА «Ваўкавыскцэменташыфер» на момант ажыццяўлення кантрактаў (менавіта праз гэта прадпрыемства ўсё праходзіла) былі свабодныя рэсурсы цэменту. Гэта сцвярджае намеснік гендырэктара Папко. І зусім ужо нельга зразумець, чаму менавіта палякам трэба было прадаваць яйкі і ўгнаенні. Пры тым, што іх цэмент для нас абышоўся ў 3.700 рублёў, а ўнутрырэспубліканская цана была тады 350 рублёў. Адбылося завышэнне кантрактных цэн у параўнанні з унутранымі. Атрымалася так: у Польшчу вывезлі прадукцыі на 58,9 мільёна рублёў, а ўзамен—наш жа ваўкавыскі цэмент.

Яшчэ адзін момант. Цэмент адпускаўся з Ваўкавыска віцебскім спажыўцам, а рахункі ім не выстаўляліся. Нібыта бясплатна, так? На 9,271,2 мільёна адпушчана, апрыходавана ж спажыўцамі на 20.710,3 мільёна. Як так можа быць? Яўнае парушэнне парадку ўліку матэрыяльных каштоўнасцей.

Нарэшце, дзяржпрадпрыемства пры аблвыканкоме не разлічылася з дзяржавай па падатку на дабаўлены кошт і прыбытак. З калгасамі разліку таксама не было. Замест гэтага ў іх купілі яйкі на 3.210,4 мільёна, а ў Польшчы абмянялі фактычна на 5,9. І грошай няма. Па сутнасці, гаспадаркі абрабаваны.

Адным словам, пры выкананні гэтых кантрактаў дзяржаве былі нанесены страты на 52 мільёны, а бюджэт недаатрымаў 10,8 мільёна ў выглядзе падаткаў на дабаўлены кошт. Не дзіўна, бо нават у падатковай інспекцыі дзяржпрадпрыемства зарэгістравана не было. А вось штраф за ўтойванне сум падаткаў складае 21,7 мільёна рублёў. Неблагія фінансавыя дасягненні, ці не так?

Катэгарычна не згаджаецца спадар Драздоў з тым, што ён перавысіў свае службовыя паўнамоцтвы. Ну, гэта, дарэчы, не я сцвярджаю. Так лічыць пракуратура: «Улічваючы, што ў дзеяннях Драздова П. У. і іншых асоб дзяржаўнага прадпрыемства па знешнеэканамічнай дзейнасці пры Віцебскім аблсавеце народных дэпутатаў прысутнічаюць прыкметы злоўжывання службовым становішчам — злачынства, прадугледжанага артыкулам 166 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, лічу магчымым па матэрыялах праверкі ўзбудзіць крымінальную справу, правесці расследаванне і вырашыць пытанне аб адказнасці вінаватых асоб». Сказана таксама аб тым, што «прадпрыемства па знешнеэканамічнай дзейнасці заключала з польскай фірмай «Кантрактус» не выкліканыя неабходнасцю кантракты, якія не былі эканамічна абгрунтаваныя і цягнулі за сабой буйныя эканамічныя страты як для асобных гаспадарак, так і ў цэлым для бюджэту вобласці». Проста і ясна. Гэтую паперу я таксама бачыў на свае вочы. Дарэчы, склалі яе ў Пракуратуры РБ.

На прэзідыуме аблсавета П. У. Драздоў па сутнасці абверг усе абвінавачванні ў свой адрас. Але ж ёсць матэрыялы праверкі, рабілі яе дасведчаныя людзі. Да таго ж, няма сэнсу не верыць пісьмам (у тым ліку, за подпісамі Драздова), накладным, плацёжкам і г. д. Як ён, скажам, растлумачыць сваё пісьмо дырэктару ВА «Азот» (Ноўгарад), у якім просіць выдзеліць 15 тысяч тон угнаенняў для патрэб сельскай гаспадаркі і ў той жа час закупляе ўгнаенні ў вобласці для бартэру з палякамі?

Ну, добра, аб усім гэтым гаварыць можна доўга, балазе, матэрыялу хапае. Я задам спадару Драздову адно пытанне: а дзе прыбытак? Калі кантракт быў вельмі выгадным, то колькі гэта ў рублях? Ці доларах? Неяк не заўважыў я гэтых прыбыткаў.

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

